*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЦЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 13. Нядзеля 29-га мая 1927 г. № 13.

## РАНІЦАЮ Ў ПОЛІ

Пятро Глебка

Вясна падыходзіць звычайна маўкліва:
учора 'шчэ сыпаўся ў золкасьці сьнег,
а сёньня зацьвітаюць кветкамі нівы,
а сёньня на нівах рассыпаўся сьмех.

Выходжу я рана, да сонца ўсходу,
за плугам у поле. Цягучы туман
расплыўся над лесам—відаць на пагоду...
Я песьняй вітаю вясеньнюю рань.

І конь мой ня чуе цяжару ў плузе:
ён горда ўздымае сваю галаву...
— „Здароў будзь, Буланы!.. Здарова мой дружа!
Сягоньня мы ў полі 'шчэ толькі ўдвух.

І роўненька скіба за скібай кладзецца,
часамі ўдарыцца,—выскачыць плуг
ды зноў шапаціць пад зямлёю, злуецца,—
ральля рассыпаецца ў пух.

А сонца ўзыходзіць,—тады на палосах
пракоціцца гоман паціху, гучней...
Арэ вунь дзяўчына, сплятаючы косы,
і, здаецца, што іскры мігаюць з вачэй.

У сэрцы такая вялікая радасьць,
што я прыпыняю на ўзгорку каня,
каб глянуць наўкола арліным паглядам
і думы імклівыя трохі суняць.

Стаю і гляджу, і гляджу, і дзіўлюся:
адкуль гэтак многа і сілы і дум—
як быццам-бы людзі з усёй Беларусі,
каб сеяць, на гэты палетак ідуць.

І бачу—далёка, ля ціхай дубровы,
старэнькі з сявенькай на камень прысеў,
тады мімаволі лятуць туды словы:
— „Няхай-жа цьвіце і красуе пасеў!“



Пільшчыкі за працай.

# ЛЕПШ ПАЙДУ НА ВЯСЁЛЫЯ ВУЛІЦЫ

**В. Каліноўскі**

Адшумелі, адшасталі заміці
І ня плачуць шамкі пад дугою.
Усплывае мінулае ў памяці
Сэрца зноў зазьвінела тугою.
Бо была з залацістымі косамі,
З васількамі вачэй дарагіх.
Недзе згінула з буйнымі росамі
У карунках нябёс залатых.
А тады так вясна красавала,
Як і сёньня красуе ў нас.
І так палка яна цалавала
Цалаваў і яе я ня раз.

Так была... Былі вочы, як неба
Была любай, ах, любай маёй...
Успамінаю, на вошта... Ня трэба
Не вярнуць, не вярнуць дарагой...
Лепш пайду на вясёлыя вуліцы,
Сустракаць маладую вясну,
Радасьць кволая, дзеўчынай туліцца
Й абуджае ад зімняга сну.
І ня мне сумаваць аб далёкім
Што мігнула ў сонных гадох.
Я сягоньня вясны сінявокай
Поўнай шклянкаю п'ю сырадой.

# ЛЮБЛЮ

(*Верш у прозе*)

Люблю я поле... сам я ня знаю чаму я люблю яго, але мяне нешта цягне да яго; я хачу глядзець на яго, цешыцца ім. Люблю я поле вясною, калі растае сьнег, і раўкі з каламутнай вадою бягуць; сваімі ўсплёскамі клічуць вясну і хараство... люблю я поле і летам, калі высокае жыта шуміць, пры маленькім ветрыку. Люблю васількі—блакітныя вочкі... люблю іх цяді тады па мяжы, глядзець, радавацца, цешыцца хараством.

Люблю я поле і тады, калі васеньні вецер нема гудзе, шуміць, пяе сваю песьню. Люблю я поле і тады, калі яно пакрыта белай пялёнай, калі сонца пераліваецца ў сьняжынках дукатамі... Люблю я поле з яго хараством... з яго прастатою. У мяне ў душы паўстаюць вобразы, вобразы непадзельнага хараства...

Люблю я таксама і вёску, люблю хаты і скрып варот, і калодзежаў, люблю сады, у якіх тоне вёска...

Лыкавыя лапці, якія скрыпаюць пад нагамі ад марозу, гавораць мне аб нашай вечнай беднасьці і аб змаганьні за радаснае жыцьцё старэнькіх хат. **А. Ч.**

# УНОЧЫ

## Быль

### I. Дубок

Цёмныя хмары закрывалі ўсё неба. Халодны сівер дзьмуў з поўначы і гудзеў навакол будынку. Тэлеграфны дрот зьвінеў. Чалавек, ня бачыў нават свайго каня, які ішоў павольнай ступою, плюхаў нагамі па гразі і цягнуў парожнія калёсы.

Сумна было, ой, як сумна запазьніўшамуся падарожнаму.

Сядзеў Піліп на калёсах ціха, ціха.

Толькі дрот сьмела цягнуў сваю аднальковую песьню і быццам гаварыў Піліпу.

— Ты чуеш? Непалохайся, чалавеча, бо я ня сплю. Ты бачуш маю песьню? Ня бойся!..

Ён атрымаў сёньня ў канторы жаляскому дзьвесьці рублёў, заробак усяе мінулай зімы і лета і загэтым ехаў дадому баючыся.

А месца, дзе прыходзілася ехаць Піліпу, было глухое. Ня раз у апошнія гады тут выкідваліся такія штукенцыі, што пры адным толькі ўспаміне рабілася жудасна. Гэтая жуда, гэты страх скоўвалі ўсю Піліпаву істоту і ён палохаўся ўсяго, дрыжэў і раз-по-разу рука ашчупвала тое месца, вопраткі дзе ляжалі грошы.

— Эх,—часамі думаў Піліп,—і чаму я дурны не заначаваў дзе небудзь, ось як бы цяпер добра было.

Дарога была вялікая, трыццаць вёрст, але не начавацьжа ў чыстым полі, трэба ехаць.

А чорны худзенькі конік ішоў і ішоў уперад, малаціў сваімі нагамі па жыдкай гразі і нарэшце ўвайшоў у лес, дзе спрадвеку была вельмі кепская грэбля.

Тут і ўдзень трудна было праехаць, а ноччу і таго горай, але Піліп ад страху ня ведаў нават, дзе ён, чаго ён ляжыць на калёсах і куды едзе.

Вось чорны прайшоў ужо палавіну грэблі. Яшчэ трохі і зноў пойдзе лепшая дарога. Як раз тут па самай сярэдзіне грэблі была вялізарная лужа вады і чорны спыніўся.

— Ай, яй, яй,—загукала нешта ў лесе з правага боку недалёчкі ад грэблі і змоўкла.

## У ХАЛОДНУЮ ВЯСНУ

### Рагнеда Беразінская

Неба халоднае, шэрае, хмурнае,
Зямля не сагрэта цяплом.
Думае моцна асіна панурая
Голыя дрэвы кругом.
Хмары павольна адна за другою
Коўдраю мяккай плывуць на ўсход;
Без перапынку і без супакою
Далей і далей плывуць упярод.
Неба халоднае, неба нудлівае:
Грому вясёлага ў ім ня чуваць,
Ветры сьпяваюць у полі гульлівыя,
Сьпіць і маўчыць сенажаць...

Шэпчуць штось ціха бярозанькі кволыя,
Слухаюць моўчкі дубы.
Гнуцца саромліва станы іх голыя,
Гнуцца да долу яны.
Неба пахілае, неба халоднае...
Булькае недзе рака
Рвецца кудысьці сьпяшыць многаводная,
Мыецца ў ёй асака.
Вецер хоць цёплы даўно ўжо сьвішча—
Раньняй ня вее вясной.
Быццам то восень спраўляе гульбішча,
Стукае ў вокны сьлязой...

## РЭЧКА

### Г. Дуброўскі

Мілая ты рэчка,
Рэчка дарагая,
Лягла к табе сьцежка,
А за ёй другая.

Прыгляджусь да рэчкі,
Вечарам блакітным:—
Абрасла ты рэчка,
Веярам ракітным.

Вечарам над рэчкай
Карагоды зор,
А за рэчкай ціха...
Шэпча цёмны бор.

Вецер ледзь калыша
Сьветлай рэчкі хвалі,
Рвуцца плыні ціха
У чужыя далі.

І пад гоман мілы,
Міліёнаў зор...
Вечарам над рэчкай
Шэпча ціхі бор.

С. Багушэвічы, Бярэзінскі р.,
Барысаўшчына.

---

Чорны спудзіўся, рвануў уперад, выкуліў у рыштох Піліпа і згінуў у цемры вясеньняй начы.

Стукнуўся Піліп ілбом у гразь, кінуўся ўлева, пасказнуўся і расьцягнуўся ў лужыне.

— Канец, —падумаў Піліп. Але неяк узьняўся, ступіў два крокі ўправа, бултыхнуў у нейкую яму і згубіў прытомнасьць.

Доўга ці мала ляжаў Піліп на дне ямы, але нарэшце ачухаўся і чуе, што недалёчкі гудзе дрот.

— Знацца я на шляху з боку,—падумаў Піліп і хацеў ужо рушыць уперад, як у гэты момант зноў нешта, як загукае.

— Ай, яй, яй!..

У Піліпа і дух заняло. Прытуліўся ён з боку ямы, стаіць ні жывы, ані мертвы.

— А, а, а!.. Ай, яй... яй!.. і ўсё зноў заціхла, толькі нешта пранеслася цераз грэблю з енкам, як-бы хто забіў чалавека; яго цягнулі абы як і ён, шкадуючы свайго жыцьця, у бяспрытомнасьці акаў, енчыў і потым змоўк, назаўсёды змоўк.

А дрот цягнуў сваю песьню, зьвінеў і вецер гуляў вольна па вярхоўкам дрэў, якія калыхаліся і штосьці ціха гаманілі.

Піліп узварухнуўся, задрыжэў увесь, пачуў пад нагамі ваду і пачаў памаленьку вылазіць з ямы. Сяк так ён выкарабкаўся з яе і стаў думаць.

— Куды ісьці і што рабіць.—Забыўся ён і на грошы і на ўсё на сьвеце.

А дрот бязупынку гуў і даваў яму вестку аб тым, што ён не адзін, што ён яшчэ жывы і Піліп пайшоў на гэты звон, на гэты сьпеў дроту.

Ля першага слупа ён наткнуўся на свайго каня, які зарзаў, пачуўшы свайго гаспадара, а апошні вельмі зарадваўся, што яго конік ня ўцёк і не загінуў.

Павесялеў Піліп. Разблытаўшы лейцы, паправіў ён мяшок з сенам—сеў і паволі паехаў далей.

Вецер таксама гуў, але чамусьці гукі дроту замаўкалі і іх можна было пачуць толькі ля кожнага стаўба.

Зараз цёмныя хмаркі разарваліся і з-за лесу выкаціўся сярпок месяца. Хутка адна за аднэй зьяўляюцца зорачкі і неяк радасна стала на душы ў Піліпа.

Зірнуў ён на сітцо, якое стаяла ўжо над заходам, на каромыслы, якія таксама пе-

# ПЕРШЫ НАЧЛЕГ—СЬВЯТА МОЛАДЗІ.



Вясна—найлепшая пара году. З радасьцю і шумам сьпяшыць вясковая моладзь на начлег. А там, разлажыўшы агонь, цэлую ноч вядуць гутаркі-гамонкі.

ракруціліся і таксама стаялі ўжо нізка.

— Зараз дзень,—падумаў Піліп і ў такіх думках праз гадзіну ён уяжджаў ужо ў вёску, дзе досьвіткі былі ў поўным разгары.

Бабы стукалі ў сушнях церніцамі, пелі песьні, гаманілі, сьмяяліся. Дзесьці гула малатарня, а ў таку ля самай вуліцы хтосьці выбіраў кулі.

Вось рыпнулі дзьверы. Нехта вышаў з гумна.

— Ужо крыху пасьвятлела, зараз будзе днець,—загаманіў той, і зноў схаваўся ў гумне.

Пачынаўся дзень. Пеўні хлопалі крыльлямі і будзілі заспаўшых сялян. Сям і там з каміноў віўся дым і пахла смажаным салам. Вёска абуджалася, наступаў дзень, які быў даражэй Піліпу ад усяго на сьвеце.

Цяпер ён ехаў сьмела і спакойна, як спакойна было і ў прыродзе. Сьвет змогцьму і здавалася Піліпу, што ён усю дарогу ехаў так ціха і сьмела, як вось і цяпер. Але калі ён зірнуў на свае ногі, то яны былі мокрыя па калені, запэцканыя, як і ўся вопратка.

Тут толькі ён успомніў пра свае грошы. Хваціўся ён за адну кішэню, другую—пустыя...

Завярнуў ён каня і, як мага хутчэй, паехаў назад шукаць іх.

Праехаўшы з вярсту, ён успомніў, што, здаецца, клаў іх у нацельныя нагавіцы, дзе ля паясьніцы была кішэнька.

Спыніў Піліп каня, расьпяразаўся, мацнуў па кішэнцы—грошы ёсьць. Разьвязаў ён хустачку, пералічыў: дваццаць паперак па чырвонцу.

Схаваўшы грошы на сваё месца, Піліп завярнуў каня і паехаў назад у вёску.

Зараз яго нагналі балаголы і запыталі:

— Ці ня ты, чалавеча, згубіў шапку? Тут толькі ён агледзеўся, што згубіў шапку і ўвесь час ехаў без яе.

Ён, падзякаваў балаголам, узьдзябурыў на галаву і паехаў за фурманкамі.

Стала халодна. Усё цела дрыжэла, зуб на зуб не пападаў, і Піліп заплакаў.

Чаго ён плакаў—ніхто нямог здагадацца і нават ён сам ня мог-бы сказаць.

Гэта былі сьлёзы радасьці, ці проста сьлёзы вялікай патугі, вялікай працы беднага Піліпа і вялікія грошы, якія ён запрацаваў сваім гарбом.

# Унук

## В. Гараўскі

Шэрая вясна ня ўсьміхалася сэрцу. Вялікім каменем навалїўся сум, цісну́ўся адусюль, быццам хто чорным палатном запутваў душу. Шэрым зрабілася жыцьцё, як старая шапка Сымона.

Сымон даражыў сваёй шапкай. Яшчэ калі ваяваў з японцамі, то атрымаў у салдатах гэтую шапку. Аблезла яна ўжо. Збуцьвела ад сваёй сівізны, але трымалася на галаве Сымона. Зраслася яна з галавой. Шапка сівая і галава сівая, у адно зьліліся. Ды й зьнімаў рэдка яе Сымон, толькі, калі ў царкву заходзіў, а так і спаў у шапцы.

Нехацелася й жыць, такім жыцьцём паскудным.

Гэта калісь, як Сымон быў яшчэ маладзейшым—весела сустракаў вясну. Калі ўдарыць бывала ў званы, толькі водгульле плыла над вёскамі. Сэрца расло. А цяпер сумна гулі званы, калі званіў Сымон. Не радавалі яны сэрца. Ня чуў у іх гуле тэй радаснай рашучасьці, скарга нейкая вырывалася з іх. Яна сумна, бясконца цягнулася.

А жыцьцё ўсё болей і болей рабілася няпрыветлівым.

Старыўся сьвет. Вясна падыходзіла, але ў душы Сымона, яна не сьмяялася. Мучылася толькі душа. Вылазілі адтуль шэрыя й ня прыветлівыя думкі.

Помніў тую вясну Сымон, якой ён радаваўся. А гэта—шэрая вясна...

Тады хітры бацюшка ў вёсцы быў. А каля яго аціраўся і Сымон. Цяпер толькі думкай вяртаўся ў мінулае. Далёка недзе за імглістымі туманамі танула мінулае.

У Сымона цяпер толькі ўнук—Грыша застаўся. Сын з нявесткай даўно паўміралі і жонка памёрла. А Грышу гадаваў Сымон, каб хто-небудзь зьмяніў старога званара.

Быў яшчэ сабака „Гультай“.

Спачатку, калі пасьля доўгай хваробы памёрла нявестка, да Сымона зьбіраліся суседзі. Але бачачы, што ён не ахвотна гаворыць хутка пачураліся.

Ніхто ня прыходзіў да Сымона і Сымон ні к каму не хадзіў. Нават вокны ад вуліцы забіў дошкамі як века труны. І застаўся адзін з сваімі думкамі шэрымі. Доўгімі зімовымі вечарамі, калі Грышка зьбягаў да суседзяў, падыходзіў Сымон да Гультая, які спаў заўсёды на Грышкіным ложку і доўга гаварыў яму. А Гультай слухаў гэту нудную гаворку і глядзеў няпэўна на Сымона.

Толькі тады, калі й Гультая ня было дома Сымон браў з паліцы малітвеньнік і ў тысячны раз чытаў малітвы. Позьнімі вечарамі, як згараў запас сухой лучыны, Сымон узлазіў на печ і доўга яшчэ паўтараў малітвы, пакуль сон не змагаў яго.

Цягнулася зіма. А вясна ня прыносіла нічога радаснага.

Атрымліваў за сваю службу званарскую, што раз, то меней. А гэтай вясной і на бульбу ўжо не хапала. Жаліўся бацюшку, што жыць немагчыма, але бацюшка толькі разьвёў рукамі ды сказаў:

— Я сам цяпер жыву ў прагаладзь, нічым не магу памагчы.

Ішоў раз Сымон з суседняе вёскі. Цяжка шлёпаліся дзіравыя боты па мяккім сьнягу. А думы ўсё плылі, як той сьнег пад нагамі. Усе няпрыветныя, адна чарней за другую. У далі цёмнай сьцяной стаяў бор. Сымон калісь часта хадзіў цераз гэты бор, а цяпер не. Вільготна было ў бары, ды смалой пахла. Шум роўны, доўгі як гул звона стаяў. Наганяў гэты бор яшчэ чарнейшы сум. Цяжка было йсьці. Вада прыкра квактала ў дзіравых ботах. Даўно ўжо думаў Сымон аб сваіх ботах, няраз хацелася іх лапцямі замяніць. Заставаліся цяпер боты ў сьнягу, вязьлі. Здаецца, каб так хутчэй сьнег сагнала, босым-бы да хаты дашоў.

Дома Грышка з Гультаём спаткалі дзеда. Дзед палез у скрынку дзе ў яго ляжаў хлеб, бульба. Грышку паслаў зьбіраць ламачча. Назьбіраў Грышка сухога гальля і агонь распаліў. Сьпяклі з дзедам па чатыры бульбы, мачалі ў соль і елі з хлебам.

Пасьля дзед устаў і сказаў Грышку:

Сёньня буду вучыць чытаць цябе. Вялікі ты ўжо ў мяне вырас. Трэба малітвы вучыць.

Дзед палез на паліцу, дастаў свой стары малітвеньнік і пачаў паказваць Грышку літары.

— Так ты ўжо ўсе літары ведаеш, азваўся дзед—хто табе паказваў?

— Дзеду?!.. пытаўся ўадказ Грышка.

— Чаго?

— У мяне лепшая кніжка ёсьць, хлопцы мне далі. Я пакажу, во яна.

Грыша выцягнуў з пячуркі невялікую кніжыцу.

— Пакажы.

Дрыжачымі рукамі ўзяў дзед кніжку і яшчэ болей дрыжачым голасам прачытаў назву піанэрскай кніжкі.

Грышка нясьмела глядзеў на дзеда.

— Ня трэба гэтых кніжак чытаць. Нядобрыя яны,—ледзь шопатам выгаварыў дзед і кінуў у вагонь. Лізнуў агонь кніжку, ярка загарэлася.

— Дзеду.

— Маўчы шчанё. Трэба малітвы вучыцца чытаць. Ня трэба Грышка да хлопцаў хадзіць, кепскаму яны цябе навучаць, ад бога адаб'юць.

— Няма бога! весела крыкнуў Грышка,—я ведаю ўжо...

— Ах, ты... дзедава рука шукала рэменя на сьцяне. Але жвава бліснулі Грышкавы лапці і толькі яго бачыў... Яшчэ язык з-за дзьвярэй паказаў.

А дзед паваліўся на зямлю і абняўшы за шыю Гультая доўга, сударажна плакаў, як дзіця.

* * *

Сьмяялася вясна.

Сонца, як размашысты плавец, магутна ўдарала вёсламі залатых праменьняў. Купалася ў ігрывых ручайках і звонкіх пералівах вольнага ветру. Жыцьцё маладое, спавітае сочным запахам распускаючагася лісьця бяроз, і маладой травы, нясутрымна рвалася ў бязьмежную шыр. А раніцамі, калі сьвет быў яшчэ замярцьвелы ад начнога холаду, поўны соннай глушы і спавіты ў веснавыя туманы, зьбіраліся дзеці.

Іх звонкі радасны крык будзіў зямлю. Цесна было іх песьням маладым у старым садзе, рваліся гэтыя песьні за платы, у поле, к сонцу, на спатканьне вясне...

— Грышка ўставай, хлопцы клічуць,—званіў нехта пад вакном.

Іду.

З згорбленай хаты выррваўся басаногі хлопец, коўзаўся па мяккай і сырой, як сьпечаны яблык, зямлі. Тануў у гурце дзяцей.

Завіжэлі лапаты.

А яшчэ сьмялей зьвінелі маладыя песьні.

Ня прымус стаяў над лапатамі, а ахвота. Радасная, вясёлая ахвота.

Адзін перад другім завіхаліся хлапцы.

Хутка зьмяталі маладыя рукі сухую кару з крывых яблынь. Яшчэ шпарчэй хадзілі лапаты рэжучы чорную мяккую зямлю.

Сымон цэлымі днямі ня выходзіў цяпер з хаты. Рэзалі яго вушы маладыя задорныя песьні. На двары цьвіла вясна, а на яго галаву, яшчэ ніжэй насунулася шэрая, зімовая шапка. Толькі раз, калі гоман детвары прарываўся ў хату праз шчыліны дзьвярэй, Сымон ня вытрымаў:

— Грышка-а... ідзі ў хату...—крычаў сіплым голасам.

Не па-айду-у! там цёмна ў хаце, тут лепей.

— Помні сукін-сын есьці ня дам!

Ізноў націскаў Сымон шапку на вушы і зноў непакоіўся за свайго радзімага ўнука.

Вечарам, калі шэры змрок запаў над зямлёй і туманам путалася рэчка, Грышка прышоў дамоў.

— Грышка—чуць ня плачучы гаварыў ужо дзед—на каго ты мяне старога пакідаеш?!. і ў голасе яго чулася і просьба і гнеў.

— Дзеду, а ты не хадзі лепей званіць, хлопцы ня любяць, як ты звоніш, яны сумна гудуць званы, а нам песьні трэба.

— Грышка!!!—дзіка закрычаў дзед.

— Усё роўна дзеду, ты стары ўжо... а мы маладыя, цяпер пановаму там... мы сумаваць ня будзем...

Рванулася і зьнікла ў цемнаце Грышкава постаць. А праз расчыненыя дзьверы заліваў хату цёплы вясеньні вечар.

Стары Сымон абняўшы за шыю Гультая ціха заплакаў:

— Адны мы з табой засталіся... Грышка пашоў ад нас.

І тады стаяла перад ім вялікая задача старога чалавека,—што жыцьцё пражыў царкоўным званаром,—зразумець Грышу, малога ўнука свайго.



## ДОСЬВІТКІ

*(Пераклад з ангельскай мовы)*

### ЛЁНГФЭЛО

Сумныя, хмарныя досьвіткі.
Вецер падняўся на бой.
Крыльлямі морскіх птушак
Пырскае белы прыбой.

Сьцішна ў рыбацкай хаце,
Тлее газьнічная мгла.
Бедная, бедная дзеўчынка
Каля вакна прылягла.

Пільна ўглядаецца ў цемру,
Вочкі шукаюць кагось.
Ці ня прыстане на бераг
Доўгачаканы госьць?

Ходзіць па хаце жанчына.
Зыблецца тонкая цень:
То аж пад столь завіваецца,
То прападае ў куце.

Вецер у шыбу стукае,
Казачны сьцеле туман.
Слухае, слухае дзеўчынка...
Глуха шуміць акіян.

Вецер шалёна енчыць,
Вал набягае здалёк,
Рынуўся ў сэрца да мацеры
Колеры змыў са шчок.

Пералажыў Ю. ГАЎРУК.

# 16 майскіх кветак

## (Памяці дукорскіх партызан, расстраляных белапалякамі ў 1920 г.)

### У. Суніца

Успамінаюцца часы белапольскай акупацыі, калі на Беларускую зямлю зноў вярнуліся паны і падпанкі. Зноў на нейкі час зьявілася панская нагайка. Па вёсках шнарылі польскія шпікі.

Беларуская сьвядомая моладзь ідзе ў партызаны. Са зброяй туляюцца па лясох, гараць адзіным жаданьнем—дапамагчы вызваленьню краіны.

Такі партызанскі атрад арганізаваўся ў м. Дукоры (цяпер Менская акр.). Атрад пачаў арганізоўвацца ў студзені 1920 г. На чале атраду стаяў матрос Андрэй Блашко. Спачатку атрад налічваў каля 100 чал., а праз тыдзень атрад ахваціў тры воласьці: Дукорскую, Пярэжырскую і Клінокскую. Штаб атраду зьмяшчаўся ў вёсцы Харэлічах, адкуль быў родам Блашко.

Працаю партызанскага атраду кіравала Менская падпольная комуністычная арганізацыя. Сяляне дапамагалі чым маглі.

* * *

Раніцаю 3-га траўня вёску Харэвічы абкружылі польскія салдаты, абвясьціўшы яе на ваенным становішчы. Нікога ня выпускалі з вёскі і ня ўпускалі. Усіх сялян сагналі ў канец вёскі, больш тысячы чалавек. Старых сялян і малых дзяцей на адзін бок да плоту, а моладзь на другі бок. Прыехала тры аўтамабілі з кулямётамі. Навялі кулямёты на сялян. Але колькі цьвёрдасьці—ніхто не сказаў ні слова аб партызанскай працы.

Застукаў кулямёт і ўсе кінуліся ўцякаць. Чатырох забілі і некалькі чалавек паранілі. Частка партызанаў засталася ў руках палякоў.

Тыдні два хмурна ішло жыцьцё. Партызанаў мучылі: ламалі пальцы, ушчаміўшы ў дзьверы, запускалі іголкі пад ногці, калолі языкі, білі калючым дротам і г. д. Але партызаны трымаліся цьвёрда. Пасякалі іх бізунамі, паламалі шомпалы б'ючы іх, але ні слова яны не сказалі. У сярэдзіне траўня адбыўся палявы суд. 16-га траўня партызаны выслухалі прыгавор: „Адзінаццаць чалавек расстраляць", выслухаўшы прыгавор слаўныя барацьбіты-пакутнікі засьпявалі беларускую марсэльезу: „Ад веку мы спалі"...

* * *

16-га траўня раніцаю да ўсходу сонца пагналі яўрэяў капаць магілу партызанам. У часе ўсходу сонца павялі партызан да магілы. Там яшчэ раз прачыталі ім сьмертны прыгавор. А пасьля дазволілі сказаць слова т. Блашко. Тав. Блашко пачаў гаварыць аб тым, што вось, праз некалькі хвілін, яны загінуць, разьвітаюцца з жыцьцём... Ён гаварыў аб тым, што ніхто не задушыць мужыцкае крыўды, што справа працоўных не памрэ...

І тут, разам з сваімі таварышамі, ён упаў пад кулямі.

* * *

Яны загінулі ў слаўнай барацьбе. І памяць іх увекавечана. У былым маёнтку Дукора, дзе іх судзілі і мучылі, пабудавана школа імя шаснаццаці партызанаў.

## ПЕСЬНЯ ПАСТУХА

### Міхась Камінскі

Я хлапец малады і здаровы
Сын вясёлых палёў і лясоў.
Усю весну пасу я каровы
Па вялікіх прасторах лугоў.
А як луг запускаюць на сена—
Паганю свае стадка у лес...
Вось дзе мука,—як кепска,
як дрэнна!
Адзінота—нікога ні дзе...
Спачываць ня прыходзіцца тут,
Нават хлеба спакойна ня зьесьці.
Ну і гора, як многа пакут?!
Нават нельга прысесьці.
Доўга буду я так гараваць?
Эх, ты сэрца, нудзіцца ня трэба
Буду вольныя песьні сьпяваць
І глядзець, любавацца на неба.

## ЯШЧЭ ЎЧОРА

### С. Ліхадзіеўскі

Сіроткаю вырас у беднай,
У цёмнай вясковай ён хаце.
Вясны у жыцьці ён ня ведаў,
У сьлёзах тапілася маці.
Туманнай была яго доля.
З маленства ён пасьвіў каровы,
Улетку—пад сонцам, на полі,
Зімою—ў лес езьдзіў па дровы.
. . . . . . . .
Жыцьце, як рачулка, бруіцца
Мінулі часы сьлёз і гора.
Паехаў тагды ён вучыцца
У шумна-гульлівы горад.
Труба яшчэ ўчора і пуга,
Зялёныя родныя гоні...
Учора хадзіў ён за плугам—
Студэнтам рабфаку сягоньня.

## МАЯ ПЕСЬНЯ

### Ад. Русак

Не пяецца песьня суму, не пяецца,
Бо ў грудзях у радасьць сэрца
мае ўецца,
Ой, вясёлую... ды песьню запяю я;
Сэрца мае у песьнях ня сумуе.
Ой, у полі вецер. Сьнег той
дзьме завея,
Радасьць мая сэрца мае грэе.
У палёх свой сум заслала восень
Сэрца мае у радасьць завілося.
У палёх вясна. Вясна замаладзела
Пад лагодным сонцам ўсё
павесялела.

Як-жа мне ня пець вясёлыя
ды песьні,
Калі гай зацьвіў прыгожа на
прадвесьні
Як-жа мне ня быць вясёламу
між кветак,
Што ўбіраюць хараством ды
наш палетак.
Як-жа мне тут аднаму ды сумаваці,
Калі весела ў прасторах, сенажаці...

## Паляваньне

### Яўхім Дрозд

Як ні стараўся ціхенька зьбірацца на паляваньне Тарас—усё-ж бацька прачнуўся.

— Ты гэта куды?

— Нікуды—адказаў Тарас, запіхаючы ў кішэню патроны й кавалак хлеба.

— Як нікуды?! А ламачыну (гэта на стрэльбу) на вошта бярэш?

— От прайдуся трохі. Сягоньня-ж у нядзелю, мо' работы ня будзе.

— Добрая праходка, каб ты з галавы вышаў! Лапці толькі дарэмна таптаць. Вельмі-ж ужо настраляў зьвярыны тыя разы! Лапцей натаптаў, а дзе твае зайцы ды качкі?

— У лесе бегаюць—прабаваў пажартаваць Тарас.

— У лесе!—Такому ёлупу, як ты, хоць да кала прывяжы—не заб'еш. Ня то, што ў лесе. А пакуль заб'еш, дык бацьку ўжо трэба лыкі купляць... Так, сынку, ідзі. Тапчы апошнія лапці, бацька ўсё справіць...

Стары злосна плюнуў, і павярнуўшыся на ложку на другі бок, замоўк.

Пасьля такога „вучэньня" ў Тараса адпала ўсякая ахвота прайціся са стрэльбай. Ён вышаў на двор і сеў.

На ўсходзе чырванела неба. Ірзалі на начлезе, мусіць ад раньняга холаду, малыя жарабяты. Недзе далёка, каля рэчкі, крычалі кнігаўкі, а на сенажаці рыпаў драч...

— Но-о, каб цябе!..

Гэта варочаўся з начлегу старэйшы брат Тараса—Пятрусь. Яшчэ перад варотмі ён нешта весела ўхмыльнуўся. Потым зьлез з каня, і адчыняючы вароты, прагаварыў:

— От ты тут сядзіш ды варон страляеш, а я, брат, качак нагледзеў, як вараньня якога! Так і лапочуць крыльлямі па вадзе...

— То чаму-ж ты іх не палавіў за хвост...

— Э-э. Як я бачу, ты мусіць, з бацькам і сёньня „дэяскусію" завёў... Але ні-

## ЗОРЫ

### Ю. Гаўрук

Ў небе зазорылі зоры,
Вольна і лёгка наўкольля.
Вежамі высяцца горы,
Не зварухнецца гольле.

Сэрца, як голуб туркоча.
Ловіш таемныя гукі.
Ціха крыніца бразгоча,
Воддаль заснулі букі.

Канулі ў цемру разлогі,
Глыб—і зірнуць ня сьмеем.
Белая стужка дарогі
Правілася зьмеем.

Сьвеціць маяк па-над морам,
Плешчуцца сьмелыя хвалі.
За разьлiўным прасторам
Парай заслаліся далі.

Болей ісьці ня хочу,
Болей нічога ня трэба.
Сэрца, як голуб туркоча.
Зорамі зорыцца неба.



**Беларускія сялянкі.**

чога. Паслухай, дзе я качак наглядзеў...

І Пятрусь расказаў, што ён езьдзіў на начлег аж за Далёкі Пералом да рэчкі Тухлянкі, і як увесь вечар на гэтай рэчцы плёскаліся і крakталі качкі...

Тарас больш яго ня слухаў. Схапіў стрэльбу і праз гадзіну лазіў з Лыскам у берагавых кустох.

Відаць, праўду казаў Пятрусь, што тут былі качкі, бо Лыска ня раз пробваў брахаць у зарасьніку, як-бы гонячы зайца. Вось сабака забраўся ў самы гушчар, нешта брахануў разы два, потым пачаў ламацца да берагу.

— Шукай, цюцька, шукай!—крычаў Тарас.

З густога чароту выглянула шырокая дзюба качкі з бліскучымі вочкамі. Яна якбы прыслухоўвалася да таго, што робіцца ў кустох. Тараса аж страсянула ад радасьці, ці мо' ад апаскі выпусьціць качку з пад стрэльбы. Гэта бывае з кожным маладым хлапцом, які ходзіць на паляваньне першы год. Потым з цягам часу гэта праходзіць і ён больш упэўнена цэліць па зайцу альбо цецяруку.

...Б-бах...

З вады паляцелі пырскі. Качка перавярнулася на сьпіну, а Тарас аж засьвістаў ад радасьці...

— Шукай, шу-у-кай...

Другі раз бабахнуў Тарас і другая качка папала яму ў рукі.

Качкі былі маладыя і яшчэ ня ўмелі лётаць. Сядзелі больш у кустох, і толькі тады, калі бачылі небясьпеку ад Лыскі, выплывалі бокам на рэчку.

З вярсту прашоў Тарас па топкім беразе Тухлянкі. Каля поясу было ўжо тры крыжаны і адна цыранка. На другім баку рэчкі, у зарослым кустамі возеры, было шмат качак. Часамі яны падымалі такі вэрлах, што Лыска пачынаў выць, мусіць ад таго, што нельга было да іх дабрацца.

Уаяла зайздрасьць Тараса.

А што, каб перабрацца на той бераг? Вось-бы налузаў дурных качак. Прынёс-бы ды паказаў бацьку:

„Глядзі, што я магу зрабіць!"

Тарас хуценька скінуў жакетку, адвязаў качак. Пяць

# Вясна

**Лукаш Калюга**

Як маленечкія люстэрачкі, мяняюцца ад праменьняў вясеньняга сонца растрэсеныя па полі сьняжынкі. Весела міргае шыр палявая, як вокам скінуць, ад вуглоў 3-х новых хат з прыбудоўкамі хляўчукоў ды такоў, што, як дзіця старчыхі ў цёплай хаце, туляцца ля іх, да бярэзьнічку шляхэчага хутару. Заве шыр на свае загоны.

Як тычкі, тырчаць гэтыя тры хаткі ў чыстым полі. Не пяюць ім ціхіх калыханак кучарыстыя дрэўцы, схіліўшы над іх стрэхамі свае зялёныя галовы ў шэрую гадзіну. Толькі вецер-падвей высьвіствае песьні снуючы каля іх вуглоў. Ні плоту, ні замёту ніхто ня ставіць упопярак яго сьцежак.

У аднэй хатцы сядзіць ля вакна Тодар Сітнюк і ўглядаецца ў белую шыр, снуе думкамі па дзірваных сваіх палеткаў. Думка радасная, што самахцом цягнула яго сюды, у гэты пустыр, часамі зьявіцца цяпер і тады пад павісшым вусам прабяжыць лагодная ўсьмешка.

Роўным звагам гудзе каля другога вакна жончын калаўрот і з пад яе пальцаў тоненькая, як валасок, нітка жвава бяжыць у вілачкі.

* * *

І пачалося яно з ціхіх гаспадарчых меркаваньняў, з практычных разваг. Але тэмп яго што раз павялічваўся і што раз вышай узьнімаўся Алімпін, Тодаравай жонкі, звонкі голас.

І як толькі ўпраўляўся яе бабскі язык. Сакатала:

— Ужо каторы дзень, каторы тыдзень я дзяўбу гэтаму надаўбню—дабірала яна больш ядранае, буйное слоўца: „Пайдзі, да Вінцэся. Каб ты па сьвеце не хадзіў! Пазыч жыта. А ён і вухам не вядзе.

Па сваіх камітэтах валочыцца“.

— Ціха!.. ціха!..—ні то крычучы, ні то просячы ратунку, пісклівым голасам наперабой жонцы залемантаваў Тодар. Яму гэтыя песьні прыслухаліся за паўтары гады пасялкоўскага жыцьця. І так яны вечна, дзе-б ні быў, куды-б ні пашоў, як звон стаяць у вушшу. Як бобам сыпле імі Алімпа кожан дзень.

А яна раскудахталася на ўсе застаўкі, як пусты млын. Жалілася на сваю горкую долю, на недахват куска хлеба, а да хлеба—і казаць няма чаго.

---

патронаў палажыў у шапку, бо ў кішэні маглі намокнуць. Рака ў гэтым месцы была ня больш пятнаццаці крокаў шырынёю а гразкім дном. Калі глядзець з берагу, дык вада здавалася няглыбокай: ня больш паўтара аршына. Але дно рэчкі ў гэтым месцы было тарпяністае. Развадзянелы торп, якбы вісеў у вадзе. Трэба было толькі ступіць чалавеку на такі грунт і яго ногі не знаходзілі апоры, а плыткая, на паўтара аршына, рэчка магла пакрыць вадою самага высокага чалавека.

З берагу вада даходзіла Тарасу па пояс, пасьля пашло глыбей. Блізка сярэдзіны рэчкі ён ня мог дастаць дна і ногі пацягнула да нізу. Тарас трохі ўмеў плаваць. Ён пробаваў павярнуцца назад, але нічога ня вышла. Мокрае адзеньне цягнула да ніву і нельга было ўсплыць паверх ракі. Стрэльба даўно ляжала на дне...

...Ра-а-ту-йце!...

І не пазнаў Тарас свайго голасу. Да гэтага часу звонкі, ён цяпер зрабіўся глухім, і здавалася, яго падаў ня чалавек, які стараецца ўсплыць паверх рэчкі, а нехта другі і голас гэты выходзіць з топкага, пакрытага вадою, дна...

...Ра-ту-у-йце!

* * *

— Ты чуеш, Сьцяпан?

— Што?

— Крычыць нехта...

Два рыбаловы кінулі выцягваць з вады волак і прыслухаліся.

Было чуць, як у за кустамі ў Праточыне нехта моцна латашыў па вадзе. Брахаў сабака.

...Рра-у-у-е...

Праз некалькі хвілін Тарас, як сонны, сядзеў на беразе, а рыбакі трэсьлі яго за плечы.

— Эх, ты стралец! Ачухайся, чаго так глядзіш, як варона на курыныя яйкі. Чуеш?

А праз гадзіны дзьве Тарас высушыў на сонцы свае манаткі, забраў качак і стрэльбу, якую вылавілі з вады волакам, пашоў да хаты.

Дома трывога яго прашла.

Бацьку ён нічога не сказаў, толькі адным вокам маргнуў на качкі. Здаволены бацька радасна пляснуў рукамі.

— ...Быў парабкам і трэба было трымацца ў цёплым кутку чвырака, калі ня выкідалі. Зазвоняць—бяры работу ў рукі. І ні табе клапот, ні думак. Воляю сьвет. Рукі ў кішэні—пасьвіствай.

„А яму ня добра. Трэба свой шнур мецъ, свае клапоты. Кажа, зямлю ўраджайнаю зробіць, будзе сітніцаю пазы затыкаць. Хлус. Хвалько, Дурань!..

— Сьціхні!—начальніцкім голасам загадвае Тодар і адначасна кулак спускае з-за пляча на рог стала.

— А вось ня сьціхну!—зазначае Алімпа.

— ...Вось Тодарка! Хоць голы ды востры. Але помні: ні дагоніш яго, Вінцэся, у пяту пацалаваць. Ты—скула пад яго вокам і яшчэ пакланіцца яму ня хочаш. У яго дабра поўны засекі, а ў цябе зубы на паліцы ляжаць".

* * *

А тым часам неўзаметку падкралася гадзіна-злосьці, што раз мацней сьціскала Тодарава ўстрывожанае сэрца.

Не змагла яна ўтрымацца ў вузкіх берагох сумленьня і шырокаю паводкаю хлынула цераз іх, змываючы па дарозе ўсё. Была ў яго на той час адна думка, адна мэта—даць. І засланіла яна сабою ўсе астатнія думкі, імкненьні, развагі. Рвануўся Тодар. Акамянелы кулак разоў колькі заехаў у каршэль Алімпе.

Загаласілі, на ўсю печ, дзеці.

— Людцы, ратуйце! енчыла Алімпа, і буйныя сьлёзы цурком ліліся з вачэй.

Апамятаваўся Тодар. Апрануў кажух і ціханька вышаў з хаты.

Сам на сябе і на ўвесь сьвет злосны быў ён.

Сёньня пабіўся. Жарты гэта?! П'яны быў, век пражыў—ня біўся. А цяперака давялося. Злаваць... Во, гэта другая справа. Злаваць ён умее, ды яшчэ як умее, заесца да таго, што год гаварыць ня будзе, нават, вачэй на таго не падыме. Другі-б за тую віну крыві-б нарабіў, сабакам ні папіць. А ён на гэта ня здолен. Ён ціхай і ўпартай натуры.

Яркі сьвет рассыпаных па полі зорак сьляпіў Тодару вочы. Праціраючы іх кулаком пашоў ён у вёску.

Вясна ідзе. Гудзе й пераліваецца маленькая ручаінка перабягаючы пад невялічкім мастком дарогу. Па сьцежках чарнеюць лужы. Сьнег-сьлюза, якую рассовае ў бакі Тодар, ідучы сваёю дарогаю.

Насунуўшы сваю аблавушку на самыя вочы, унурыўшыся пёрся ён па напрамку на Вінцэсяў бярэзьнік.

Сваё жыцьцё і ўдоўж і ўпоперак перадумаў.

Добра таму, у каго работнікаў поўна хата. А ў мяне—дзятва, ды мы ўдваіх.— Снаваў свае думкі Тодар.

Рвеш свае вантробы, з скуры пнешся, а ўсё недахваткі. Хоць-бы на сваё насеньне ўзьбіцца. Чужое зерня—воўк. Аддасі яго, а ў засеку адны падазадкі астаюцца. Канцы з канцамі ня зыходзяцца... Ну, але на лета іначай будзе. Пераківаемся сяк-так гэты год. Вось крапівы прыжджом. А там і на цыбулі пер'е адскочыць. Будзе боршч, халаднік. Перахарчуемся лета.

А жонка хваліць долю парабацкую.

Ну яе.

Вясною рунее жытцо й ярына, зялёнымі хвалямі к зямлі хінецца. Улетку сьпелыя калосьсі гнуць свае пажоўклыя галовы на твае грудзі, як пройдзеш мяжою, і шастаюць казку пра жыцьцё.

А каб да шчырай працы ды навуку дадаць, агранома часьцей пазываць на парады. Тады з сітніцаю можна будзе ня толькі мары злучыць, але й справу на грунт сапраўднасьці перавесьці.

І хлюпаюць па макраце яго боты. Пырскі ў бакі за гоні разьлятаюцца. А ён задумённа зьвесіў галаву і не пашле ласкавага погляду на сонца, што радасна ўсьміхаецца з сіняй высі. І не падыме вачэй на бярэзьнік, дзе з-за яго гэтакая калатня ўзьнялася.

* * *

У бярэзьнічку за будынкамі, што як стада авечак рассыпаліся па шырокай сядзібе шляхціца Вінцэся, ішоў апарат поўным ходам. Франак, яго сын, толькі ўпраўляўся пляшкі падстаўляць. Як з кранта дзюрчалі шалёныя кроплі, ды 'шчэ якія! Ужо разоў колькі ўпэўніўся ў гэтым Франак. Ні больш напарстка пацягне ён, як толькі нойдзе поўна пляшка, а за горла, як агнём хопіць. Кварта першаку, ганарыста растапырыўшы свае бакі, стаяла каля самага апарату. Але й другі гатунак мала чаго адставаў.

Спакусьліва моргае агоньчык пад трыножкаю.

А Тодар гэтак і прэцца сьцежкаю каля гумён.

*(Канец у чарговым нумары)*

# Памяці Максіма Багдановіча

**З. Шамардзіна**

25 траўня скончылася роўна 10 гадоў са дню сьмерці выдатнага беларускага поэты Максіма Багдановіча. Памёр ён зусім маладым (1892-1917 г.), але пакінуў досыць багатую літаратурную спадчыну, замацаваўшы гэтым за сабою значнае месца ў беларускай літаратуры.

Да гэтага часу яшчэ ня ўсё, што ён пісаў, зьявілася ў друку. Толькі ў апошнія часы ўзяўся Інстытут Беларускае Культуры за падрыхтоўку да друку поўнага збору твораў М. Багдановіча, першы том якіх павінен хутка выйсьці ў сьвет.

Ня гледзячы на тое, што беларускі чытач меў магчымасьць чытаць толькі маленькі зборнічак яго вершаў „Вянок", выданы ў 1913 г. у Вільні і які цяпер зьяўляецца бібліографічнай рэдкасьцю, ды розныя творы, раскіданыя ў розных часопісях, імя Максіма Багдановіча вядома кожнаму, хто цікавіцца гісторыяй і разьвіцьцём беларускае культуры наогул і ў прыватнасьці літаратуры. У яго надзвычайна прыгожых і рознастайных па форме творах адбівалася ня толькі асабовая яго, моцная лірыка, ня толькі народныя мотывы, але і шэраг соцыяльных момантаў, што робіць яго поэзію асабліва каштоўнай для нас і гаворыць аб тым, якога каштоўнага пісьменьніка мы згубілі ў яго асобе.

Калі ў цяжкія часы царскага ладу, ён здолеў у сваіх творах выявіць ня толькі свой поэтычны, але і грамадзкі твар, то можна з упэўненасьцю сказаць, што ў нашыя часы гэты выдатны і разам з тым надзвычайна культурны пісьменьнік многа-б каштоўнага даў беларускай культуры, якая ў умовах дыктатуры пролетарыяту становіцца на цьвёрды грунт і на правільны шлях уцягненьня ў культурнае будаўніцтва працоўных мас і на іх абслугоўваньне.

Вось чаму, улічваючы тыя заслугі перад беларускай культурай, якія меў Багдановіч, Народны Камісарыят Асьветы лічыць патрэбным правесьці па ўсіх культурных установах БССР успаміны гэтага выдатнага поэты.

Юбілейная Камісія зробіць шэраг мерапрыемстваў, якія павінны будуць праведзены ў жыцьцё ў бліжэйшыя часы. З іх галоўнае — утварэньне НКА стыпэндыі імя М. Багдановіча для найбольш талентнага студэнта-пісьменьніка, утварэньне па лініі Інстытуту Беларускае Культуры штогодняй прэміі імя Багдановіча за найлепшы твор беларускае літаратуры.

Аднача́сова Камісія пастанавіла лічыць мэтазгодным прыбіць мармуровую дошку на тым доме ў Менску, па Камунальнай вуліцы (б. Александраўская), дзе нарадзіўся Максім Багдановіч; ужыць захады да пералажэньня некаторых твораў Багдановіча на музыку.

Таксама Камісія лічыць неабходным выпусьціць маленькі зборнічак, у які ўвойдуць крытычна-біографічны артыкул, вершы Багдановіча, вершы прысьвечаныя Багдановічу і некалькі ільлюстрацый—як партрэт пісьменьніка, дом, дзе ён нарадзіўся, помнік яму на могілках у Ялце і г. д. Гэты зборнічак, які рыхтуецца маладняко̀ўцам, Аляксандровічам, будзе мець каштоўнасьць, як кніжачка, якая па свайму зьместу і па цане знойдзе доступ у шырокія колы працоўнага насельніцтва.

Ад 10 па 25 мая, культурныя ўстановы робяць пасяджэньні, прысьвечаныя Максіму Багдановічу. Да такіх установаў належаць ўсе вышэйшыя навуковыя і навучальныя ўстановы, дзяржаўныя тэатры, пэдтэхнікумы і старэйшыя групы сямігодак. У Менску ўтворана адчыненае ўрачыстае пасяджэньне ў Доме Працаўнікоў Асьветы з удзелам Нар. Кам. Асьветы, Інстытуту Беларускае Культуры, аб'яднаньня пісьменьнікаў, Саюзу Прац. Асьветы.

На гэтае ўрачыстае пасяджэньне запрашаецца бацька Максіма Багдановіча.



# Вершы Максіма Багдановіча

## ЛЯВОНІХА

Ах, Лявоніха, Лявоніха мая!
Спамяну цябе ласкавым словам я,—
чорны пух тваіх загнутых брывянят,
вочы яркія. вясёлы іх пагляд;
спамяну тваю рухаваю пастаць,
спамяну, як ты ўмела цалаваць.
Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
Ты пяяла галасьней ад салаўя,
ты была заўсёды першай ў танку—
і ў „Мяцеліцы“, ў „Юрцы“, і ў „Бычку“
а калі ты жаці станеш свой загон,
аж дзівуецца нядбаліцца Лявон.
Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
У цябе палова вёскі кумаўя.
Знала ты, як запрасіць, пачаставаць,
а часам і да сэрца прытуляць.
Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
Дай-жа бог табе даўжэйшага жыцьця,
дай на сьвеце сумным радасна пражыць,
ўсіх вакол, як весяліла, весяліць.
Хай ніколі не забуду цябе я.
Ой, Лявоніха, Лявоніха мая.

* * *

На Лявонавай кашулі вышыты галубкі;
я за тое вышывала, што цалуе губкі.
На Сямёнавай кашулі вышыты лісточкі;
я за тое вышывала, што цалуе вочкі.
На Сапронавай кашулі вышыты падкоўкі;
я за тое вышывала, што цалуе броўкі.

## ПЕРАД ПАВОДКАЮ

Праясьнілася пагода,
Бо вярнулася вясна,
Ўсё чакаеш, што прырода
Ўстрапянецца ада сна.
І пад птушчы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.
Зазьвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Сьнег, размоклы ў час адлігі,
Змые з луга без сьляда.
Дык разлійся-жа раздольна
Ў чыстым полі і гаю
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю!

## ВОЗЕРА

Ў чарцы цёмнай і глыбокай
Плешча, пеніцца віно;
Хмелем сьветлым і халодным
Калыхаецца яно.
І хлістаецца асока,
І шуміць высока бор,
А ў душы не замаўкае,
Струн вясёлых перабор.

# Максіму Багдановічу

М. Русаловіч

Дзесяць год працякло з тэй часіны,
Як злы лёс песьняра загубіў.
Зорку сьветлую цёмнай пуціны
Рукой прагнай на век загасіў.
Дзесяць год, як маўчаць твае струны,
Што калісь неўгамонна гулі,
Што душу хвалявалі і думы,
Што ў даль за сабою вялі.
Твае песьні гартованы з сталі
І зьвіняць так, як цьвёрдая сталь
Каменьні, іскры ад іх разсыпалі
Думкі мчаліся ў сьветлую даль.
Ты-бы змог сваёй роднай старонцы
Песень дзіўных напець яшчэ многа,
Ды зацьмілася яснае сонца
Абарвалася жыцьця дарога.
Дзесяць год працякло з таго часу
Калі сьмерць песьняра загубіла,
Зорку лепшую, сьветлую нашу
Крылом чорным навекі акрыла.
Але хоць песьняра і забрала
Ненасытная маці-зямліца
Што рука песьняра напісала,
Тое будзе вякамі іскрыцца.

Вёска Скарынічы, Меншчына.

## ВЯСКОВЫЯ ПРЫПЕЎКІ

З. Бульбянік

Цераз рэчку ляжыць кладка
Тонкая ківаецца.
Нам Савецкая Ўлада
Вельмі падабаецца.

Маладая прадзе праля
Ды на новы калаўрот.
Для мяне хата-чытальня
Ох, найлепшы мой куток.

Жыта жала на палосцы
Рэзаў востра мой сярпок.
Запішуся я ў вёсцы
У селькораўскі гурток.

А дзе гэта скрыпка граець
Струны галасістыя.
У нас культпрацу паляпшаюць
Сябры камуністыя.

# Юліюс Яноніс

## (Да дзесяцілецьця сьмерці літоўскага пролетарскага поэты Яноніса)

**В. Шымэнас**



Юліюс Яноніс

30-га траўня скончылася дзесяць год з таго дню, калі ў часе першага грому вялікай рэволюцыі, трагічна скончыў сваё жыцьцё першы літоўскі пролетарскі поэта Юліюс Яноніс.

Юліюс Яноніс радзіўся ў 1896 годзе ў беднай сям'і. Цяжка было Юліюсу гадавацца ў беднасьці, цяжка было пры такіх умовах вучыцца ў Шавельскай гімназіі. Беднасьць выхавала ў ім пачуцьцё нянавісьці да капіталістычнага сьвету. І ў творчасьці самых маладых год у яго зьяўляюцца мотывы жальбы, выкліканыя бядотамі жыцьця:

> Вянкоў ня плёў ніхто мне,
> ў краіне беднай я жыву...

З самай маладосьці Яноніс стаў песьняром гора прыгнечанага народу. Ён сам думае аб „новым сьвеце“; сваімі вернымі прыяцелямі называе гора й бяду.

Хутка ў ім пачынаюць зьяўляцца імкненьні рэволюцыянэра—у яго зьяўляецца песьня змаганьня. У 1913 годзе ён уступае ў соцыял-дэмократычны гурток і марксызм дае яму адказы на пытаньні, якія да гэтых часоў былі яму няяснымі:

> Калі, як птушка імкнецца сэрца к свабодзе,
> калі расьцьвітуць зімовыя кветкі,
> калі на заусёды мінецца восень...

У 1914 годзе ён піша:

> Чаму мільёны гаруюць,
> што дзёнь у горы ліюць пот...

І адказ для яго ясны:

> І гэта затым, што багацеі
> ня ведаюць, дзе дзець багацьце...

І яшчэ ясна яму:

> ў змаганьні мы толькі дойдзем да шчасьця...

Яноніс усю сваю маладосьць аддаў вызваленьню рабочае клясы, увесь аддаўся рэволюцыйнай рабоце. У 1916 годзе ён пападае ў турму, адкуль яму ўдаецца ўцячы; пасьля яго зноў злавілі царскія жандары і толькі ў часе лютаўскай рэволюцыі ён вярнуўся на свабоду.

Цяжкае жыцьцё падарвала яго здароўе. З турмы ён вышаў сухотнікам. Ён зноў аддаўся рэволюцыйнай рабоце. Але сілы няма і Яноніс рашыўся сам скончыць сваё жыцьцё, у часе вялікіх падзеяў, якіх ён так доўга чакаў. Перад сьмерцьцю ён піша сваім таварышам: „Разлучаючыся з жыцьцём нічога лепшага пажадаць не магу, як толькі працаваць на карысьць рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі, ісьці да апошняй мэты—соцыяльнай рэволюцыі“.

30-га траўня 1917 году каля Ленінграду поезд перарэзаў Яноніса. Рабочая кляса страціла свайго поэту. Творчасьць Яноніса палажыла асновы літоўскай пролетарскай поэзіі. Цяпер растуць дзесяткі новых поэтаў, для якіх творчасьць Яноніса зьяўляецца кіраўнічаю зоркаю.

# Вершы Юліюса Яноніса

## Батрацкая песьня

Но мой косю, но, гняды—
Пан глядзець ідзе сюды.
Будзе лаяць нас ізноў,
Што памалу мы аром.

Колькі выаралі мы!—
Колькі смутку і бяды!
Но, мой косю, но гняды!
Пану замак трэ' злажыць...

Но, мой косю, трэба нам
І ня еўшы ня прыстаць...
Я бяз хлеба, я гарун,
Хоць ару, ару, ару...

**1914—1916 г.**

*З літоўскае мовы пераклаў Ул. Дубоўка.*

## НА ВОРЫВЕ



У першы веснавы дождж.

# Бібліографія

## „ПАЗНАЙ СВОЙ КРАЙ“

**МАГІЛЕЎШЧЫНА. Непэрыодычны орган Акруговага Таварыства Краязнаўства. Том І. Пад кіраўніцтвам і рэдакцыяй А. М. Беларусава. Выданьне Акрвыканкому і Краязнаўчага Т-ва. Магілеў—Беларусь 1927 год. Цана 1 руб.**

„Наш зборнік“ Магілеўшчына, гаворыць у прадмове рэдакцыя зборніка, параўначага са зборнікам іншых акруг БССР, выходзіць з спазьненьнем. Магілеўская краязнаўчая арганізацыя імкнулася хоць пазьней, але **„з больш выразным зьместам аб Магілеўшчыне стаць прад рабочымі і сялянамі „Магілеўшчыны“**. Да гэтага яны імкнуліся і ўжо ў зьмесьце першага тому Магілеўскія краязнаўчыя арганізацыі гэтага дасягнулі.

Разгледзім папарадку. **Першы разьдзел—прырода Магілеўшчыны.** Даецца апісаньне важнейшых расьлін, даецца гісторыя закладкі буйнейшай нашай Магілеўскай станцыі лекавых траў.

У разьдзеле **Гісторыя Магілеўшчыны** дадзены новыя матар'ялы на аснове вывучэньня старых дакумантаў захаваўшыхся ў Магілеўскіх архівах і музэях. Такія мала вывучаныя пытаньні як: Магілеўскае сераднявякоўе, ці цэхі купецкія заслугоўваюць увагі ня толькі гісторыка, а й вучня нашай сямігодкі.

У падборы матар'ялаў асабліва выявілася ініцыятыва Магілеўскіх краязнаўцаў. У Новым-Быхаве яны выпытваюць пра мінулае ў старажылаў (успаміны А. Скобавай), у Магілеве вывучаюць Мышакоўку, старадаўнія водныя шляхі і прыстані Дняпра, знаходзяць беларускую мову ў старых надгробных плітах.

Як гандлявалі людзьмі на Беларусі? На гэта зборнік адгукаецца артыкулам Язэпа Сушынскага. Сябар краязнаўчага таварыства пакапаўся ў мясцовых архівах, адшукаў старыя дакументы і па іх даў поўны малюнак таго бясправ'я і нядолі, у якой на працягу цэлых вякоў знаходзіліся Магілеўскія ратаі.

Сялянскія забастоўкі ў 1905 годзе, паўстаньне супроць абшарнікаў панаў Копыскай і Круглянскай беднаты яскрава абмалёвана ў артыкуле **„Сялянскі рух на Магілеўшчыне ў 1905 годзе“.**

Гаспадарка адраджаецца. Расьце мясцовая прамысловасць будуюцца новыя камбінаты, дзесяткі вёсак з шматпольлем ды канюшынай усё гэта адзначана зборнікам. І за гэтым „Магілеўшчына“ можа быць добрым дарадчыкам нашаму савецкаму работніку, бо **„зараз да 10-ай гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі легендарны некалі Магілеў абярнуўся ў жывы прамысловы і асьветны цэнтр, дзе расквітаюць і прамысловасьць і пролетарская асьвета і ўвесь дабрабыт працоўнае масы“.**

Быт сягонешняй і ўчарашняй вёскі, песьні, прыказкі, замовы, барацьба з старым, новыя прыпеўкі—усё гэта яшчэ ня вывучана. „Магілеўшчына“ і тут ідзе на падмогу. Студэнты Магілеўскай Савецкаай партыйнай школы згуртаваныя ў краязнаўчае таварыства, разыходзяцца ў вёскі, распытваюць, вывучаюць, запісваюць песьні, байкі, быліны, казкі. Разам з старой песьняй Жукоўская Зося (вёска Слабада на Мазыршчыне) сьпявае і новую:

О, яблачка, як капустка  
Мой муж комуніст, а я беларуска.  
Эх бывала не сьпявала  
Бога я баялася,  
А цяпер пара другая  
З богам распрашчалася...

Казка-праўда з эпохі нашых дзён, дзе гэрой селянін знаходзіць прытулак у цёплым ложку дому селяніна, можа зацікавіць шмат каго з нашых дасьледчыкаў сучаснай народнай творчасьці.

Зборнік Магілеўшчына на сваіх 180 старонках пастараўся даць чытачу поўнае ўяўленьне аб старой і маладой Магілеўшчыне, пачынаючы легендарнымі магіламі льва і канчаючы сягонешнім Магілевам Беларускім, поўным імкненьняў да творчага культурнага савецкага будаўніцтва.

**А. М.**

# Хроніка Беларускага літаратурнага жыцьця

**Я. Купала** здаў у Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва чацьвёрты том сваіх твораў, у якія ўвашлі драматычныя поэмы. Зараз Я. Купала працуе над перакладамі з украінскае поэзіі.

— **Якуб Колас** працуе над аповесьцю „У глыбі Палесься" (2-я частка „У Палескай глушы") і над поэмаю „На шляхох волі". Выходзяць другім выданьнем яго творы „Новая зямля" і „У ціхай вадзе".

— **Хутка выходзіць** з друку першы том твораў М. Багдановіча. (Акадэмічнае выданьне Інстытуту Беларускай культуры).

— **У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве** на гэтых днёх выходзіць з друку зборнік апавяданьняў Зьмітрака Бядулі „На зачарованых гонях" (другое выданьне). Цяпер З. Бядуля закончвае аповесьць „Салавей", якая друкуецца ў часопісі „Узвышша".

— **Выходзіць з друку** зборнік вершаў і поэм Ул. Дубоўкі—„Наля".

У Бел. Дзярж. Выдавецтве друкуецца зборнік вершаў. Я. Пушчы **„Дні вясны"**.

— **Крапіва** падрыхтаваў да друку зборнік апавяданьняў. Зборнік будзе друкавацца ў кніжніцы „Узвышша". У выдавецтве выходзіць з друку зборнік баек Крапівы.

— **М. Лужанін** зараз працуе над мастацкаю прозаю.

— У кніжніцы „Узвышша" друкуецца зборнік вершаў **П. Глебкі—„Шыпшына"**.

— **С. Дарожны** рыхтуе да друку зборнік вершаў.

— **В. Шашалевіч** закончвае новую п'есу. П'еса яго „Змрок" ідзе ў пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага 1-га театру ў Менску.

— **Роман Кузьмы Чорнага—„Сястра"** друкуецца ў часопісі „Узвышша".

— Вышаў з друку другі нумар літаратурна-мастацкай часопісі „Узвышша". У зьвязку з дзесяцігодзьдзем сьмерці М. Багдановіча, шмат матар'ялу ў гэтым нумары прысьвечана М. Багдановічу (Артыкулы—проф. Замоціна, А. Бабарэкі і інш.).

— **Роман М. Зарэцкага „Сьцежкі Дарожкі"** друкуецца ў часопісі „Полымя". Выходзіць другім выданьнем зборнік апавяданьняў Зарэцкага „У віры жыцьця".

— Вышаў з друку № 3 часопісі „Полымя".

— У маладнякоўскай кніжніцы выходзіць з друку зборнік апавяданьняў **В. Каваля „Як вясну гукалі"**.



**На менскім рынку.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Каст. Залатарэвічу.** Калі ў вас больш ёсьць апавяданьні, дык прышлеце ў рэдакцыю „Сон сіраты"—паказвае, што ў вас ёсьць здольнасьць. Толькі старайцеся пазбавіцца шаблёну. Нейк непраўдзіва выходзіць, што ў сьне дзяўчына сьпявае такую песьню. Сон хлопчыка пэўна ня бывае такім шаблённым, як па якой програме. Наагул канец псуе ўсё апавяданьне. Пачатак вельмі добры. Вершы вашы зусім слабыя.

**Лісток.** „Працавіты дзядок" выдрукуем у газэце. **Я. Шавуру.** Працуйце ў гэтым кірунку далей. Удасканальвайце сваю літаратурную мову праз чытаньне друкаваных вершаў. Дасканала апрацоўвайце свае вершы.

**Алесю Сымону.** У вершах старайцеся пазбавіцца расійскіх слоў. Старайцеся, каб у вершах быў вытрыманы разьмер радкоў.

**Гароўскаму.** Паведаміце над чым вы цяпер працуеце. Калі што ёсьць напісанае, прысылайце ў рэдакцыю. Апавяданьне ваша „Унук" друкуем у гэтым нумары „Чырвонага Сейбіту", рэшту апавяданьняў таксама выдрукуем.

Галоўлітбел № 25251. Надрукована 13 тысяч экз. Адказны рэдактар Р. Шукевіч-Трацьцякоў.